


# Наша Слова




*Згадкі*
**ДРУГАЯ СУСВЕТНАЯ ВАЙНА: ЛЁС БЕЛАРУСАЎ** Стар. 3

**ЧЫЙ ШЧЫТ І ЧЫЙ МЕЧ?** Стар. 4

Штотыднёвік (Выходзіць з сакавіка 1990 г.)

№ 26 (290)

27 чэрвеня 1996 г.

Кошт — 1000 рублёў

## ПОСТУП ТЫДНЯ



❍ **ПРЭЗІДЭНТ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ СУСТРЭЎСЯ З ПРАДСТАЎНІКАМІ МАЛАДЗЁЖНЫХ АРГАНІЗАЦЫЙ НАШАЙ КРАІНЫ.** Выхаванне і адукацыя — такія два галоўныя напрамкі ў рабоце з моладдзю былі вылучаны Аляксандрам Лукашэнкам. У час гутаркі з вуснаў Прэзідэнта прагучала: «Я не хацеў бы, каб наша беларуская, таленавітая, разумная моладзь выступала супраць маладога Прэзідэнта». Жаданне зразумелае...

❍ ***У ДРУКУ З'ЯВІЎСЯ*** *Закон Рэспублікі Беларусь «Аб аўтарскім праве і сумежных правах». Варта пачытаць.*

❍ **ВІЦЭ-ПРЭМ'ЕР УЛАДЗІМІР РУСАКЕВІЧ У ГУТАРЦЫ З КАРЭСПАНДЭНТАМ «ЗВЯЗДЫ» СКАЗАЎ:** «Для ліквідацыі недахопаў сучаснай школы трэба правесці шэраг карэнных пераўтварэнняў у арганізацыі, формах і змесце адукацыі. Згодна з распараджэннем Прэзідэнта, пачаты падрыхтоўка і ажыццяўленне школьнай рэформы. Яна дасць магчымасць захаваць усё лепшае, што было дасягнута савецкай школай, улічваючы пры гэтым сусветны вопыт, нацыянальныя традыцыі, асаблівасці сучаснага сацыяльна-эканамічнага развіцця». Хочацца, каб пасля школьнай рэформы ў школах, у якіх на сёння яшчэ ёсць беларускія класы, не толькі засталася беларуская мова, але з'явіліся новыя беларускамоўныя класы і яны былі падтрыманы кіраўнікамі нашай беларускай дзяржавы.

❍ ***У СПРАВЕ АБ КУРАПАТАХ ПАСТАЎЛЕНА КРОПКА.*** *У друку з'явіўся дакумент, які падпісаны першым намеснікам генеральнага пракурора Рэспублікі Беларусь Уладзімірам Кандрацьевым. У ім, у прыватнасці, гаворыцца: «Аналіз наяўных у крымінальнай справе даных дае магчымасць зрабіць выснову аб тым, што ў лясным масіве Курапаты ў 1937—1941 гг. органамі НКУС БССР праводзіліся масавыя расстрэлы грамадзян. Вызначыць іх асобы і канкрэтныя падставы пакарання ў працэсе следства не было магчымасці з-за адсутнасці неабходных архіўных даных у КДБ Рэспублікі Беларусь».*

❍ **У ДЗЯРЖАЎНЫМ ЛІТАРАТУРНА-МЕМАРЫЯЛЬНЫМ МУЗЕІ ЯКУБА КОЛАСА** адкрылася выстава дзіцячай творчасці, прымеркаваная да 90-годдзя літаратурнай дзейнасці класіка беларускай літаратуры.

❍ ***У МЕНСКУ НАРОДНЫ ТЭАТР «НА ДОЎГІМ БРОДЗЕ»****, што пры Палацы культуры МТЗ, адзначыў свой паўвекавы юбілей. Віншуючы тэатр са святам, хочацца спадзявацца, што яго артысты не будуць цурацца п'ес на мове свайго народа.*

❍ **УГАРОДНІ СТВОРАНА** летувіская культурная суполка «Тэвіне». Адным з першых яе крокаў стала арганізацыя ў горадзе нядзельнай летувіскай школы.

❍ ***КАБІНЕТ МІНІСТРАЎ ВЫДЗЕЛІЎ БЕЛАРУСКАЙ ЧЫГУНЦЫ СУБСІДЫІ*** *на працяг будаўніцтва комплексу на Прывакзальнай плошчы ў Менску.*

## АРШАНСКІЯ КУРАПАТЫ

2 чэрвеня на святую Тройцу ў Аршанскіх Курапатах (вёска Андрэеўшчына, Талачынскі раён) адбыўся мітынг-рэквіем, прысвечаны памяці загінуўшых на гэтым месцы ад рук НКУСаўцаў людзей у трыццатыя гады. З дзесяткаў тысяч невядомых ахвяр актывістамі БНФ устаноўлены імёны 320 асоб. Вёў мітынг Алесь Чахольскі.

**Анатоль Рылько** з Талачына прыгадаў дзень 18 верасня 1937 г., у які быў арыштаваны яго бацька і з якім ён тады, дзесяцігадовы хлопец, навек развітаўся. «З таго часу, — сказаў Анатоль Пятровіч, — боль ва мне застаецца і напамінае аб сабе кожны дзень і кожную ноч. Але тое, што са мною сёння жывуць мае дзеці, унукі і праўнукі, дадае мне веры, што будзе жыць наша родная Беларусь».

Старшыня гарадской Аршанскай рады БНФ **Санько Юрый** расказаў пра жахлівы спосаб забойства людзей, які прымянялі сталінскія вылюдкі ў Аршанскіх Курапатах, пра што паведаміў яму жыхар Андрэеўшчыны спадар Шпакоўскі. Асуджаных на смерць прывозілі сюды ў «варанках». Яны выходзілі з машын, але, зразумеўшы, куды іх павядуць, а то і ўбачыўшы, як на ўзлеску страляюць людзей, кідаліся назад да машын і адмаўляліся з іх выходзіць. Тады два-тры энкавэдзісты бралі завостраны багор, з якога немагчыма сарвацца, і білі ім у сярэдзіну — нанізвалі на багор людзей, выцягвалі іх на зямлю і тут дабівалі стрэламі ў патыліцу.



**Мая Кляшторная** выступіла ад імя Мартыралога Беларусі — грамадскай арганізацыі, якая збірае звесткі пра закатаваных у гады сталінскіх рэпрэсій грамадзян Беларусі, дапамагае вязням ГУЛАГаў рэабілітавацца, адшуквае месцы масавых расстрэлаў людзей. Яна расказала пра дзейнасць Аршанскага размеркавальніка, куды траплялі не толькі жыхары навакольных населеных пунктаў, а і людзі з Захаду. Зняволеных сартавалі па ўзросту. Маладых накіроўвалі на прымусовыя работы, а людзей старэйшага ўзросту — на расстрэл. Калі ў размеркавальнік прывозілі сем'і, то, як правіла, гінулі бацькі. У турмах не хапала месцаў для ўсіх арыштаваных, таму скарыстоўваліся храмы, якія ператвараліся ў бойні — людзей з іх выносілі забітымі. На жаль, пясок з аршанскіх кар'ераў разам з рэшткамі закатаваных скарыстоўваўся ў недалёкім мінулым на будоўлях. Такое святатацтва адбывалася і ў іншых месцах.



**Алесь Чахольскі** зазначыў: сёння, калі ў дзяржаве ўсталёўваецца паліцэйская дыктатура, Курапаты ў нашым жыцці могуць паўтарыцца. Таму нельга маўчаць і пакорліва назіраць, як з нашай Бацькаўшчыны, з нашых сімвалаў і святынь здзекуюцца нелюдзі.

Удзельнікі мітынгу выказалі спадзяванне, што з усталяваннем прававой дзяржавы на Беларусі будзе пастаўлены годны помнік ахвярам Аршанскага размеркавальніка.

**Ірына КРЭНЬ.**

**На здымках:** Мітынг-рэквіем каля вёскі Андрэеўшчына.

**Мая Кляшторная** на месцы закінутай чыгункі. Сюды прывозілі зняволеных на расстрэл.

**Фота У.КАРМІЛКІНА.**

*Культурнае жыццё*

## Фестываль на Магілёўшчыне

З 7 па 10 чэрвеня ў Магілёўскай вобласці адбыўся фестываль аўтэнтычнага фальклору Беларускага Падняпроўя. Такі фэст быў наладжаны ўпершыню, але стаў падзеяй.

Журналісты, госці, навукоўцы адзначалі высокі ўзровень фальклорных гуртоў, якія паказалі пераважна малавядомыя танцы і песні. А да таго ж ніколі не збіралася столькі ўдзельнікаў, пераважна з Магілёўшчыны і Гомельшчыны. Выступы гуртоў, хоць і ладзіліся ў прадмесці абласнога цэнтра, прываблівалі шмат гледачоў.

Пасля заканчэння фестывалю адбылася навуковая канферэнцыя з удзелам работнікаў культуры Магілёўскай вобласці ды навукоўцаў з Менска. Фотарэпартаж з фестывалю будзе надрукаваны ў наступным нумары.

**З.С.**



Мікалай Васільевіч Баліцэвіч нарадзіўся ў вёсцы Лукава Маларыцкага раёна, тут закончыў школу і паехаў вучыцца ў Беларускую сельскагаспадарчую акадэмію. А пазней, калі ўзначаліў Лукаўскі сельскі савет, закончыў яшчэ і Маскоўскі завочны юрыдычны інстытут.

Вучыцца дапамагала яму і хатняя бібліятэка, кнігі для якой пачаў збіраць яшчэ школьнікам. Карыстаюцца сямейным зборам і жонка Галіна Уладзіміраўна, выкладчыца беларускай мовы і літаратуры, ды дачка-вучаніца.

**Фота Э.КАБЯКА, БелТА.**

## «Засцянковая хата» ў Вашунаве збірае гасцей

Па ініцыятыве Таварыства беларускай мовы з удзелам аддзела культуры Віленскага райвыканкама і рады гістарычна-этнаграфічнага музея «Засцянковая хата» ў вёсцы Вашунава Докшыцкага раёна ладзіцца народны фестываль «А гармонік грае, грае!» Сустрэнуцца беларусы Віцебскага памежжа і іх суседзі з Віленшчыны, каб разам адсвяткаваць Купалле, а таксама адзначыць асвячэнне падмурка і першага вянца капліцы, а таксама іконы «Святая сям'я» (асвячае айцец Пятрайціс). Будуць таксама сустрэчы з дэпутатамі, спартыўныя спаборніцтвы, выступленні аматараў мастацкай самадзейнасці, а нехта паспрабуе адшукаць папараць-кветку.

Будзе гэта 6 і 7 ліпеня г. г. Пачатак у 12 гадзін.

Госці з Менска могуць прыехаць па маршруце: Менск — Бягомль — Докшыцы, далей па шашы ў бок Параф'янава (7км) паварот направа Свіркі — Лайкова — Вашунава (3 км ад шашы). Дарога — асфальт.

**Ю. ГІЛЬ.**
г. Вільня.

Жыццё Таварыства

# Рэфармаванне патрэбнае

На маю думку, вельмі своечасова з'явіўся артыкул У.Панады «ТБМ патрэбна рэфармаванне» («Наша слова», № 20, 96 г.). Мяне таксама непакоіць лёс ТБМ у апошні час. Я з'яўляюся, пэўна, прадстаўніком трэцяй групы насельніцтва, па класіфікацыі У.Панады, якая ўдзельнічае ў справах ТБМ. І я цалкам згодна, што ТБМ трэба рэфармаваць, бо інакш яно скане. Суполка ТБМ была створана ў Інстытуце біяхіміі АНБ па нашай ініцыятыве, і мы ўвесь час шукаем свае шляхі і сферы дзейнасці. Сябры нашай суполкі рабілі першыя даклады на інстытуцкіх семінарах на беларускай мове, збіраліся на пасяджэнні, прысвечаныя пэўным культурным і гістарычным падзеям Беларусі, прымалі ўдзел у перадвыбарчай працы па падтрымцы тых кандыдатаў у дэпутаты ўсіх узроўняў, якія з'яўляюцца прадстаўнікамі дэмакратычнай арыентацыі і адстойваюць інтарэсы народа і нашай дзяржавы.

Але што ж рабіць далей? Мне здаецца, што рэфармаванне ТБМ трэба правесці ў тым кірунку, каб найбольш поўна выкарыстаць усе магчымасці, на якія здольны шчырыя сябры ТБМ. І, пэўна, у першую чаргу трэба займацца пытаннямі беларускай культуры, яе развіцця і падтрымкі. Хай кожны вырашыць для сябе, чым і як можа дапамагчы ў гэтай справе менавіта ён.

Гэта, магчыма, будзе не тое ТБМ, якое займаецца толькі філалагічнымі пытаннямі, а Таварыства падтрымкі і развіцця беларускай культуры, беларускай духоўнасці наогул. Хай нехта займаецца пытаннямі развіцця навуковай лексікі, складае слоўнікі, нехта — вядзе гісторыка-краязнаўчыя пошукі, яшчэ хтосьці — фундаментальныя доследы ў іншых галінах навукі, а Таварыства павінна аб'ядноўваць іх усіх, натхняць іх на думкі пра Бацькаўшчыну, каб яны заўсёды ведалі, што сваімі справамі яны садзейнічаюць павышэнню духоўнага патэнцыялу народа Беларусі, павышэнню прэстыжу беларускай навукі ў міжнародным супольніцтве. Трэба, каб ТБМ спрыяла ўсялякім сувязям і стажыроўкам маладых навукоўцаў у перадавых замежных лабараторыях, прыкладала ўсе намаганні для захавання беларускай навукі. Калі мы яе захаваем, гэта дасць надзею на пасляховае развіццё грамадства ў будучым.

Новае, рэфармаванае Таварыства, на маю думку, павінна падтрымліваць усе прагрэсіўныя намаганні, якія будуць прапанаваць сябры ТБМ, стварыць умовы для сустрэч і абмену думкамі такіх людзей, каб яны маглі аказваць духоўную падтрымку адно аднаму, каб у гэткай атмасферы агульных інтарэсаў і намаганняў маглі з'яўляцца новыя ідэі і напрамкі дзейнасці. Можа, на першым этапе трэба больш ствараць беларускіх клубаў, суполак, асяродкаў. І, канечне, неабходна ўсяляк падтрымліваць газету «Наша слова». Дзякуй вялікі яе журналістам за працу па аб'яднанні руплівых беларушчыны, за тое, што падтрымліваюць нас усіх у гэтую цяжкую гадзіну.

У Гародні такім асяродкам беларушчыны з'яўляецца гісторыка-культурны клуб «Паходня», заснаваны яшчэ ў 1986 г. нябожчыкам цяпер Міхасём Ткачовым і М.Тарандай. Менавіта «Паходня» дала пачатак арганізацыі розных грамадскіх груповак дэмакратычнай накіраванасці ў Гародні, спрыяла заснаванню ТБМ і ў апошні час — ТБШ; яна падтрымлівала і арганізоўвала правядзенне культурных мерапрыемстваў, звязаных з беларускімі звычаямі і гісторыяй у горадзе.

Добра было б, каб такія суполкі (клубы) мелі выразна акрэслены сямейны характар, каб стварылі гурткі па працы з дзецьмі, асабліва пад час падрыхтоўкі да традыцыйных святаў.

Вось такія мае меркаванні наконт ТБМ. Хацелася б даведацца, што пра гэта думаюць іншыя сябры ТБМ.

З павагай,

**Ніна Паўлаўна КАНУННІКАВА,**
**кандыдат біялагічных навук,**
**сябра ТБМ.**
г.Гродна.

РЭХА

# Білі за родную мову, душылі і за... немату

Сумеснае пасяджэнне Беларускага Хельсінкскага камітэта, Беларускага ПЭН-цэнтра і Беларускай Асацыяцыі журналістаў, што адбылося па ініцыятыве рэдакцыі газеты «Фемида», было прысвечана асэнсаванню фактаў масавага парушэння правоў Чалавека сілавымі структурамі пад час падзей 26 красавіка і 30 траўня ў Менску. Высветліліся і факты прамой абразы ўладнымі асобамі гонару і годнасці па нацыянальным прызнаку.

Так, рабочая МТЗ, Вера Царлюкевіч (мае за плячыма 54 гады веку і немалы стаж працы на трактарным заводзе, у тым ліку — і ў «ліцейцы»), паведаміла прысутным, што пад час яе затрымання міліцыянты, дапытваючы жанчыну ў пастарунку, патрабавалі: «Разговаривай на человеческом языке!» Да гонару Веры Максімаўны, нават у гэтай экстрэмальнай сітуацыі яна беларускай мове не здрадзіла, заяўляючы зманкурчаным ахоўнікам, што на гэтай мове размаўлялі яе дзяды і бацькі, што яна — беларуска, што з гэтай мовай нарадзілася і памрэ.

Не сакрэт, што для тых, хто пад час шэсцяў збіваў людзей і «хапаў» іх пасля мітынгаў, арыенцірам якраз былі беларуская мова ды бел-чырвона-белыя сцягі і гэткія ж значкі.

Што да мовы як фактару чыста фізіялагічнага, дык прысутныя на пасяджэнні паважаныя сябры згаданых праваных і грамадскіх утварэнняў асабліва былі ўражаны дзеяннямі спецназаўцаў пры затрыманні навучэнца Менскага медвучылішча № 2 19-гадовага Анатоля Лісуна, глуханямога ад нараджэння.

Аказваецца, у пратаколе затрымання значылася, што гэты хлапчына, які раней ніколі ўвогуле палітыкай не займаўся, а ўзмоцнена рыхтаваўся да самастойнага жыцця, набываючы спецыяльнасць зубнога тэхніка, «кричал, выражался нецензурной бранью, выкрикивал антиправительственные и антипрезидентские лозунги». Карацей, 30 траўня А.Лісун, паводле спецназаўскага дакумента, нечакана атрымаў... дар чуць і размаўляць!

Што ж было на самай справе?

А проста хлопцу «не пашанцавала» на час узмоцненага палявання на пікетчыкаў, ён накіроўваўся ў ГУМ, каб купіць там нейкія канцылярскія прыналежнасці. У падземным пераходзе каля ст.метро «Кастрычніцкая» спецназаўцы схапілі А.Лісуна, груба запіхнулі ў аўтамашыну, а ў пастарунку афіцэр склаў пратакол ды запатрабаваў, каб хлопец усё напісанае ў пратаколе пацвердзіў уласнаручным подпісам. А.Лісун спрабаваў жэстамі растлумачыць, што ён не мог не толькі крычаць, але і чуць, што крычалі, што ён наогул не браў удзелу ў пікеце, спрабаваў паказаць дакумент аб інваліднасці. А ў адказ яго пачалі жорстка збіваць і нават душыць.

Ленінскі райнарсуд апраўдаў А.Лісуна, але пасля таго, як той, акрамя ўсяго іншага беспадстаўна і ў адчаі ад неразумення, што з ім выраблюць, праседзеў за кратамі некалькі дзён.

Карыстаючыся прысутнасцю на сумесным пасяджэнні таксама дэпутатаў ВС, асобныя, узрушаныя расповядам ахвяраў выступаючыя патрабавалі ад народных абраннікаў прыняцця пакета законаў, якія б паставілі любыя загады, рашэнні, указы, канкрэтныя дзеянні, што парушаюць літару і дух Канстытуцыі, па-за Законам, якія б дазволілі самім грамадзянам абараняць у кожным выпадку ад замахаў свае канстытуцыйныя правы.

**Алесь СЕРГІЕВІЧ.**

Меркаванні

# Ці можа Генадзь Карпенка паставіць у Маладзечне помнік?

28 траўня 1996 г. абласная газета «Мінская праўда» пад рубрыкай «Не ўтойваючы праўды» надрукавала «Адкрытае пісьмо намесніку Старшыні Вярхоўнага Савета Беларусі, былому старшыні Маладзечанскага гарвыканкама пану Карпенку Г.Д.», якое падпісаў В.Ляшковіч, заслужаны работнік культуры Беларусі. «Адкрытае пісьмо...» мела яшчэ адзін падзагаловак — «Ці будзе ўстаноўлены ў Маладзечне помнік Янку Купалу?»

Карацей, калегі пастараліся гэты газетны матэрыял аформіць належным чынам, каб ён кідаўся на вочы і, зразумела, быў бы чытаным. Уласна, так яно і павінна быць, таму што спадар Ляшковіч узнімае даволі вострае прынцыповае пытанне пра нашыя адносіны і на дзяржаўным, і на чыста чалавечым узроўнях да захавання нацыянальнай культурнай спадчыны.

Бо, на самай справе, Маладзечна — радзіма Янкі Купалы. І калі помнікі народнаму песняру Беларусі ёсць у Нью-Йорку і Менску, то вельмі ж сорамна такога не мець у Маладзечне.

Распавядаючы пра гісторыю стварэння ў свой час выдатнейшым майстрам скульптуры Анатолем Анікейчыкам купалаўскага помніка, В.Ляшковіч дае чытачу шмат цікавай інфармацыі.

Па-першае, што мастаком разам з тагачаснай маладзечанскай інтэлігенцыяй было выбрана неардынарнае месца ўстаноўкі гэтага твора таленту, рук і сэрца незабыўнага Анікейчыка — пляцоўка перад уваходам у будынак СШ № 1 імя Янкі Купалы.

Па-другое, мастак меўся паставіць не толькі саму скульптуру песняра, але зрабіць цэлую кампазіцыю: акрамя скульптуры, яшчэ і два велізарныя валуны. З выбітымі на апрацаваных паверхнях чатырохрадкоўямі купалаўскіх вершаў.

В.Ляшковіч прыводзіць адно з іх:

*«Мне мудрасці кніжнай не даў Бог пазнаці,*
*Мой бацька не мог даць раскошаў такіх, —*
*Навучыўся я слоў беларускіх ад маці*
*І дум беларускіх без школы і кніг...»*

У 1989 годзе раптоўна памёр А.Анікейчык. Яшчэ цераз некаторы час — энтузіяст у справе ўстаноўкі ля сваёй школы помніка Янку Купалу, дырэктар СШ № 1, заслужаны настаўнік Беларусі А.Мароз.

Як піша ў «Адкрытым пісьме...» В.Ляшковіч, ідэю стварэння згаданай скульптурнай кампазіцыі падхапіў затым мэр Маладзечна Генадзь Карпенка. Але мінуў час, Генадзь Дзмітрыевіч зноў трапіў у ВС, стаў у парламенце віцэ-спікерам, а вось помніка Купалу як не было, так і няма.

Такім чынам, у В.Ляшковіча з'явілася падстава нагадаць Генадзю Карпенку пра абяцанні палітыка наконт гэтай справы, якія ён даваў у тыя гады народнаму паэту і тагачаснаму калегу па дэпутацкаму корпусу Вярхоўнага Савета Нілу Гілевічу.

«Выканайце свае абяцанні — і маладзечанцы будуць удзячныя вам». Гэтымі словамі аўтар завяршае свой адкрыты ліст да Г.Карпенкі.

Калі я дачытаў да канца матэрыял, то ўзнікла некалькі пытанняў да В.Ляшковіча. І самае галоўнае: усё ж як там ні было, а справы папярэдняй улады павінны выконваць наступнікі, пераемнікі. Чаму гэты ліст накіраваны не новаму мэру, таму ж С.Татарыновічу, а менавіта Г.Карпенку? Канешне, гэта добра, што апошні пасля свайго «мэрства» ў Маладзечне зноў трапіў у ВС, а там — нават на пасаду намесніка старшыні беларускага парламента. Толькі давайце думаць.

Генадзь Дзмітрыевіч цяпер калі што і можа, то недзе пахадайнічаць за ўстаноўку купалаўскага помніка. Але, ведаючы адносіны асобных высокапастаўленых чыноўнікаў з выканаўчай улады да Г.Карпенкі, наўрад ці такое хадайніцтва прынясе станоўчы вынік. Магчыма, нават наадварот.

Вось чаму віцэ-старшыня Вярхоўнай Рады пад час нашай сустрэчы сказаў:

— У Маладзечне ёсць улада, яна і павінна давесці гэтую справу да канца.

Так, у любой цывілізаванай краіне з зыходам ранейшага службоўца са свайго крэсла ягоныя недаробленыя справы даводзіць да завяршэння спадкаемца. Ужо добра тое, што яны грунтоўна распачатыя.

Грошы сёння ў выканаўчай улады. У тым жа Міністэрстве культуры Рэспублікі Беларусь, у Маладзечанскай мэрыі. А ці ёсць грошы ў Г.Карпенкі або нават у С.Шарэцкага? Самі просяць у прэзідэнцкай адміністрацыі.

Чаму тады «Адкрытае пісьмо...» не накіравана менавіта прадстаўнікам цяперашніх выканаўчых уладных структур? Хутчэй за ўсё, мяркую, каб лішні раз папракнуць у маладзечанскіх «даўгах» былога мэра.

Але ў чым сапраўды можна папракнуць Генадзя Дзмітрыевіча і ягоных аднадумцаў, ды й многіх іншых дэпутатаў з іншых фракцый дык гэта ў тым, што ніхто з іх не аднаўляе ў парламенце 13-га склікання добрых традыцый па адраджэнні беларускай культуры, гісторыі і мовы, якія праводзіла пастаянная Камісія па культуры, нацыянальнай адукацыі і захаванні гістарычнай спадчыны на чале з Нілам Гілевічам у папярэднім ВС. Што — мала гучыць у Авальнай зале наша роднае слова.

Вяртаюся да прэтэнзіі аўтара «Мінскай праўды» да Карпенкі. Хачу паведаміць, што сказаў з іх нагоды памочнік віцэ-спікера Валерый Костка, які пад час старшынства свайго «патрона» ў Маладзечанскім гарвыканкаме займаў там пасаду кіраўніка спраў, узначальваў тамтэйшую Раду ТБМ імя Ф.Скарыны:

— І, сапраўды, Генадзь Карпенка быў адным з тых, хто імкнуўся справай даказаць сваю прыхільнасць да ідэі ўстаноўкі помніка Янку Купалу каля школы № 1 у Маладзечне. На завяршэнне справы тады проста не хапіла грошай. З бюджэту браць было практычна немагчыма, бо інфляцыя звязвала мэрыю па руках і нагах. А прыватны бізнес знаходзіўся не ў той сіле, каб узяцца за помнік. Зразумела, гэта ідэя нікуды не дзелася, і яна будзе ажыццёўлена. Але, мяркую, не цяпер — самі ведаеце, як зараз вышэйшыя ўлады адносяцца да ўсяго нацыянальнага. Але пойдзе новая хваля будаўніцтва менавіта нацыянальнай дзяржавы, знікне з палітычнага гарызонту такая з'ява, як манкуртства, — і помнік Купалу ў Маладзечне абавязкова будзе. Канешне, мясцовыя ўлады, выканаўчая ўлада краіны павінны і сёння парупіцца, давесці справу да канца. Тут я цалкам згодны з Генадзем Карпенкам.

Тым не меней, можна толькі падзякаваць аўтару абласной газеты за тое, што ён, нягледзячы на цяперашнюю атмасферу істэрыі антыбеларускасці і дэнацыяналізацыі, рупіцца пра развіццё нацыянальнай культуры ў сваім горадзе.

**Алесь МІКАЛАЙЧАНКА,**
**кар. «Нашага слова», сябра праўлення Беларускай асацыяцыі журналістаў.**

# Даты і падзеі ў чэрвені

**28** — 235 гадоў таму нясвіжскі балетны гурт, які суправаджаў князя Радзівіла «Рыбаньку», што аб'язджаў свае ўладанні, «выправіў» у Белай (цяпер Бяла-Падляска — Польшча) камедыю-балет «Маскарыль» паводле Мальера.

**29** — 165 гадоў таму граф Мураўёў загадаў закрыць Віленскі універсітэт.

— 100 гадоў з дня нараджэння Пятра Крука, беларускага скрыпача, заслужанага артыста Беларусі.

— 100 гадоў з дня нараджэння Уладзіслава Казлоўскага (Казлоўшчыка), паэта, публіцыста, перакладчыка, грамадскага дзеяча.

— 70 гадоў таму адбыўся Устаноўчы сход Асацыяцыі беларускіх студэнцкіх арганізацыяў (АБСА) ў Чэхаславакіі.

**30** — 85 гадоў з дня нараджэння паэта Чэслава Мілаша, лаўрэата Нобелеўскай прэміі.

**У чэрвені** — 900 гадоў таму пачаўся першы крыжовы, так званы народны, паход пілігрымаў да «Хрыстовай магілы», у які выбраліся бедныя людзі, жабракі. Іх шлях вёў уздоўж Дунаю.

— 390 гадоў таму пачалося ў Маскові сялянскае паўстанне пад кіраўніцтвам Балотнікава.

— 600 гадоў таму адбылося другое значнае перасяленне татараў у ВКЛ. Іх дружыны аселі ў Лідзе.

— 130 гадоў таму ў Менску пачаліся палітычныя дэманстрацыі.

— 100 гадоў таму ў маёнтку Наднёман (каля Пясочнага) дзейнічаў санаторый Якуба Наркевіча-Ёдкі, дзе лячылі кумысам хворых на сухоты і дзе рабілі прышчэпкі ад гэтай хваробы, а таксама даследавалі ўплыў электратэрапіі на лячэнне розных хваробаў.

— 100 гадоў таму ў Парыжы выйшла кніжка Марыуса Дэкрэпа пра жыццё і дзейнасць Якуба Наркевіча-Ёдкі, які (за 4 гады да вядомага выступу А.С.Папова — 7 траўня 1895 г.) дэманстраваў у Пецярбургу, Празе, Вене, Фларэнцыі, Менску і Вільні магчымасць рэгістрацыі электрычных сігналаў з дапамогай тэлефона. Ягоны (Наркевічаў) прыярытэт у бяздротавай перадачы сігналаў пацверджаны пратаколам пасяджэння Французскага фізічнага таварыства ў Парыжы ў снежні 1898 года.

— 35 гадоў таму ў часопісе «Навуковая і прыкладная фатаграфія і кінематаграфія» (№ 6, 1961 г.) быў надрукаваны артыкул сужонцаў С.Д. і В.Х. Кірліян «В мире чудесных разрядов» — вынік 25-гадовых эксперыментаў дзеля сцвярджэння «з'явы свячэння жывых аб'ектаў прыроды і спосабу атрымання фатаграфічных здымкаў рознага роду аб'ектаў». Больш за 1500 такіх фатаграфій, выканаваных Якубам Наркевічам-Ёдкам, дэманстравалася на выставе 1894 г. у Вільні.

Культурнае жыццё



Студэнты Беларускага тэхналагічнага універсітэта — удзельнікі фальклорнага гурту «Рунь» узялі ўдзел у 12-м Міжнародным фальклорным фэсце ў г.Бліс-рансбах (Зямля Саар, Нямеччына). Беларусаў не забываюць у Еўропе. І заўсёды рады бачыць на сваіх святах.

Фота А.ГАЛІЧА.

Рэха

Latvijas Republikas Laikraksts
**Diena**

*У папулярнай і шматтыражнай цэнтральнай латвійскай газеце «Diena» («Дзень») на латышскай і расійскай мовах апублікаваны зварот Латвійскага таварыства беларускай культуры да дэпутатаў краіны. Мяркую, беларусам на Бацькаўшчыне цікава ведаць, што і мы тут, у Латвіі, змагаемся за нашу родную мову.*

**З прывітаннем Вячка Целеш.**
**г.Рыга.**

# Зварот Латвійскага таварыства беларускай культуры «Сьвітанак» да Саэйма Латвійскай Рэспублікі

## Latvijas baltkrievu kultūras biedrības *Svitanak* lūgums Latvijas Republikas Saeimai

Latvijas Republikas likumā par valsts valodu 2.daļas 1.apakšpunktā izteikts Latvijas valsts atbalsts līvu kā autohtonu mazākumtautības valodas aizsardzībai, saglabāšanai un attīstībai.

...rogu un ģerboni. Līdz ar Baltkrievijas valsts atjaunošanu arī Latvijas baltkrievi uzsāka savas nacionālās kultūras un valodas atjaunošanu, un viss būtu bijis normāli, ja arī tālāk atjaunotā Baltkrievijas Republi-

У праекце Закона аб дзяржаўнай мове Латвійскай Рэспублікі ў Разд. № 1, Арт. 2 гаворыцца пра абарону і садзейнічанне захаванню і развіццю латвійскай дзяржавай мовы ліваў як мовы аўтахтоннай меншасці ў Латвіі.

Латвійскае таварыства беларускай культуры «Сьвітанак» просіць Саэйм унесці ў Разд. № 1, Арт. 2 дапаўненне пра абарону да садзейнічанне захаванню і развіццю беларускай мовы ў Латвіі, таксама як мовы аўтахтоннай меншасці.

Беларусы ў Латвіі жывуць з даўніх часоў і з'яўляюцца блізкімі родзічамі латышоў. Аб гэтым гавораць даследаванні не толькі беларускіх вучоных, але і латышскіх, якія пацвярджаюць, што беларусы як нацыя ўтварыліся пры асіміляцыі балтаў славянскімі плямёнамі крывічоў, радзімічаў і дрыгавічоў, а не ад рускіх, як сцвярджала расійская ды савецкая навука. Да 1920 г. уся тэрыторыя сучаснай Латгаліі ўваходзіла ў беларускую Віцебскую губерню, дзе разам жылі беларусы і латышы. У этнаграфіі, фальклоры, у нацыянальных традыцыях ды ў мовах гэтых народаў можна сустрэць шмат агульнага для гэтых этнасаў. Нашыя продкі ніколі не ваявалі паміж сабой, а ў сярэднія вякі нават разам змагаліся супраць крыжакоў. У часы Расійскай імперыі беларусы, як і латышы, аднолькава падвяргаліся русіфікацыі і не мелі магчымасці выдаваць газеты, кнігі і вучыцца на роднай мове. З атрыманнем незалежнасці латышскім народам і заснаваннем латвійскай нацыянальнай дзяржавы ў 1920 г. усе беларусы, якія пражывалі не толькі ў Латгаліі, але і ва ўсёй Латвіі, атрымалі грамадзянства Латвійскай Рэспублікі. Тады ж латвійскі ўрад прадаставіў беларусам нацыянальна-культурную аўтаномію.

Пачынаючы з 1921 года ў Латвіі былі заснаваны і дзейнічалі беларуская культурна-асветная таварыствы, якія адкрывалі беларускія школы і працавалі на адраджэнне нацыянальнай культуры сярод сваіх суродзічаў. Ужо ў 20-х гадах у Латвіі было адкрыта больш за 50 беларускіх пачатковых школаў, 3 гімназіі, працавалі настаўніцкія курсы, беларускі тэатр і выдавецтва, якое выдавала газеты, часопісы, падручнікі і іншую літаратуру на беларускай мове. Пры Міністэрстве адукацыі Латвіі працаваў Аддзел беларускіх школаў. Такім чынам ужо тады латвійская дзяржава, латвійскі ўрад узялі пад абарону і садзейнічалі захаванню і развіццю мовы беларусаў Латвіі. Нават у часы прэзідэнцтва К.Улманіса беларускія школы і гімназія працавалі ў Рызе да 1940 года.

З прыходам у Латвію савецкай таталітарнай сістэмы ўсе беларускія школы былі закрытыя, а настаўнікі гэтых школаў разам з латышамі былі рэпрэсаваны.

У 1991 г. савецкая русіфікатарская імперыя развалілася, і ўсе народы пачалі будаваць свае незалежныя нацыянальныя дзяржавы. Беларусы таксама абвясцілі сваю Беларусь незалежнай, прынялі Закон аб дзяржаўнай беларускай мове, былі вернуты дзяржаве яе гістарычныя сімвалы — бел-чырвона-белы сцяг ды герб «Пагоня». З адраджэннем беларускай незалежнай дзяржавы беларусы Латвіі таксама ўзяліся за адраджэнне сваёй культуры і мовы. Усё было б у далейшым нармальна, калі б незалежная Рэспубліка Беларусь працягвала б ісці па шляху нацыянальнага адраджэння. Але цяпер, калі ўлады хочуць «зліць» беларусаў з расійцамі ў адзіны рускі народ, гэта адраджэнне было спынена. Ужо раней у пашпартах беларусаў быў выкінуты запіс аб нацыянальнасці, потым беларусам навязаны рэферэндум, у якім не ўдзельнічаў увесь беларускі народ, а толькі найбольш русіфікаваная яго частка ды войска, якія прагаласавалі так, як хацеў Прэзідэнт. У выніку рэферэндуму беларускія нацыянальныя сцяг і герб былі заменены савецкімі, а дзяржаўнай мовай стала і расійская — мова суседняй дзяржавы, нягледзячы на тое, што беларусаў у рэспубліцы жыве амаль 80 працэнтаў.

Не так даўно паміж Беларуссю і Расіяй быў падпісаны дагавор аб іх аб'яднанні ў ССР, на што тысячы беларусаў адказалі дэманстрацыямі пратэстаў.

Пералічаныя вышэй палітычныя дзеянні ўлады выносяць прыгавор беларускай нацыянальнай незалежнай дзяржаве і вядуць да ліквідацыі беларускага народа як этнасу, як нацыі. Пасля ўвядзення ў Беларусі расійскай мовы дзяржаўнай спынена адкрыццё беларускіх школаў, а тыя, што былі адкрытыя мясцовымі русіфікатарамі, ізноў пераводзяцца ў расійскамоўныя. Нацыянальная інтэлігенцыя не ў стане абараніць адраджэнне беларускіх школаў, бо ўлада Прэзідэнта, які сам не церпіць беларускую мову, усемагутная. Такое становішча з беларускай мовай у Беларусі вельмі занепакоіла прагрэсіўную, дэмакратычную беларускую інтэлігенцыю Латвіі, таму Латвійскае таварыства беларускай культуры «Сьвітанак» звяртаецца да дэпутатаў Саэйма падтрымаць нашу просьбу аб абароне беларускай мовы ў Латвіі. У нас няма больш надзеі на тое, што наша родная мова будзе абаронена на нашай этнічнай Радзіме ў Беларусі. Магчыма, гэтым вы дапаможаце захавацца і не загінуць беларускай нацыі, бо калі няма мовы — няма і нацыі. Дзякуючы вашай дапамозе зможа захавацца і не будзе закрыта Рыжская беларуская школа, у якой ужо працуюць 1-ы і 2-гі класы, — гэта крынічка адраджэння беларускай мовы. Ад вашай падтрымкі будзе залежыць далейшае выданне ў Латвіі беларускай газеты «Прамень», а таксама інтэграцыя беларусаў у Латвійскую дзяржаву праз беларускую культуру і асвету, на ніве якой сёння працуюць латвійскія таварыствы беларускай культуры «Сьвітанак» і «Прамень» у Рызе, а таксама «Уздым» у Даўгаўпілсе.

Беларусы ў Латвіі і іх продкі будуць вельмі ўдзячныя за вашу падтрымку і абарону. Мы спадзяёмся на ваша разуменне і спачуванне ў бядзе, якая навісла над нашай роднай беларускай мовай, і чакаем станоўчага рашэння Саэйма Латвіі.

*Гэты зварот прыняты на агульным сходзе Латвійскага таварыства беларускай культуры «Сьвітанак» у Рызе.*

Згадкі

# Другая сусветная вайна: лёс беларусаў

*Мноства грамадзян Беларусі адзначыла нядаўна 55-ю гадавіну пачатку вайны, якую яны дагэтуль называюць Вялікай Айчыннай. Як сёння мусім трактаваць мы падзеі нашых дзён?*

*Каб адказаць на гэтае ды іншыя пытанні, карэспандэнт «Нашага слова» У.Панада сустрэўся з Аляксеем Літвінам, загадчыкам аддзела ваеннай гісторыі Беларусі Інстытута гісторыі Акадэміі навук.*

**— Вайна для беларусаў пачалася 22 чэрвеня нечаканым нападам Германіі на СССР — наколькі слушная гэтая думка, якую шмат хто падзяляе дагэтуль?**

— Слушная толькі часткова. Па сутнасці, вайна для беларусаў пачалася 1 верасня 1939 г., калі Германія нападам на Польшчу пачала Другую сусветную вайну. У той час Заходняя Беларусь належала Польшчы, складаючы каля паловы яе тэрыторыі з насельніцтвам блізу 5 мільёнаў чалавек. Беларусы займалі трэцяе па колькасці месца ў польскай арміі — каля 50 000 чалавек. І разам з палякамі яны змагаліся з агрэсарам. Многія з іх загінулі ў баях, шмат трапіла ў нямецкі палон, іншыя былі інтэрнаваныя ў СССР і Летуву. Ці мала з іх пазней апынуліся ў Катыні, а нехта — у арміях Андэрса і Берлінга.

Таму будзе слушна сказаць: вайна для беларусаў пачалася 1 верасня 1939 года. Але пачатак яе не быў для іх нечаканасцю, бо шмат гадоў да вайны рыхтавалася ўся Еўропа. Беларускія эміграцкія дзеячы ведалі пра тое, што несправядлівасць створанай у выніку Першай сусветнай вайны Версальскай сістэмы выклікае ў немцаў прагу рэваншу. Пільна назіраючы за палітычнымі працэсамі ў Еўропе, яны бачылі, што ў Германіі да ўлады прыйшлі нацыянал-сацыялісты з Гітлерам на чале, і ведалі, чым гэта скончыцца.

Разумеючы непазбежнасць новай вайны, беларускія дзеячы добра памяталі пра тое, што адным з вынікаў Першай сусветнай вайны стаў распад чатырох імперыяў — расійскай, аўстра-венгерскай, германскай ды асманскай, на руінах якіх паўсталі маладыя дзяржавы, у тым ліку і БНР. Яны памяталі, што магчымасць паўстаць Польшчы, Латвіі, Эстоніі, Украінскай народнай рэспубліцы дала менавіта тагачасная палітыка Германіі. Таму частка беларускіх дзеячаў спадзявалася, што ў час савецка-нямецкай вайны зноў паўстане беларускае пытанне і немцы, каб па вайне аддзяліць сябе ад Савецкай Расіі нейтральнай дзяржавай, паспрыяюць стварэнню незалежнай Беларусі. Гэтых поглядаў прытрымлівалася большасць беларускіх лідэраў, апазіцыйных да сталінізму: Васіль Захарка, Вінцэнт Гадлеўскі, Вітаўт Тумаш, Мікалай Шчорс, Ян Станкевіч ды іншыя.

**— Як склаўся лёс польскіх беларусаў пасля верасня 1939 года?**

— 28 верасня 1939 года Польшча перастала існаваць як дзяржава. Германскія ўлады, жадаючы падзяліць польскае грамадства і ў дадатак маючы пагадненні з Савецкім Саюзам аб падзеле Польшчы, давалі пэўныя перавагі нацыянальнай меншасці, дагэтуль няроўнай у правах з палякамі; польскім беларусам. З тымі, хто апынуўся ў лагерах для ваеннапалонных, маглі кантактаваць беларускія эміграцыйныя дзеячы — Вінцэнт Гадлеўскі, Фабіян Акінчыц ды іншыя. Яны стварылі беларускія прадстаўніцтвы — легальна дзеючыя на тэрыторыі, кантраляванай германскімі ўладамі, грамадскія арганізацыі, якія аказвалі дапамогу палонным і пацярпелым ад вайны. Беларусы нават атрымалі дазвол на выданне ўласнай газеты — «Раніца».

Па сканчэнні нямецка-польскай вайны і падпісанні дагавору паміж Германіяй і СССР беларускія дзеячы — Васіль Захарка, Іван Ермачэнка, Ян Станкевіч, Вінцэнт Гадлеўскі — пачалі звяртацца да германскіх уладаў з праектамі ўладкавання спраў у Беларусі пасля пераходу яе да немцаў. Зразумела, адказу яны не атрымалі, бо адкрыта пра будучую вайну з СССР ніхто ў Германіі не гаварыў.

**— Але ж дагэтуль сцвярджаецца, што немцы рабілі стаўку на беларускіх калабарантаў...**

— Гэта — адзін з мітаў, створаных савецкай прапагандай. Немцы шырока карысталіся антысавецкімі, антысталінскімі лозунгамі — пасля масавых рэпрэсіяў, калектывізацыі, дэпартацыяў яны маглі мець поспех. Але яны не шукалі апоры ў Беларусі, тым больш у колах, якія прапагандавалі ідэю нацыянальнай дзяржаўнасці.

Іншая рэч, што зерне нямецкай прапаганды ўпала на прыдатную глебу: унутраная палітыка савецкага ўрада паставіла СССР на грань грамадзянскага крызісу. Таму знайшлося шмат людзей, гатовых падтрымаць любую ўладу, якая прыйдзе на змену сталіншчыне.

**— Але адказам іншай часткі беларусаў на акупацыю стаў партызанскі рух?**

— Партызанскі рух меў дзве галоўныя прычыны паўстання: сам факт агрэсіі і палітыка акупацыйных уладаў у дачыненні да насельніцтва ды жаданне ўрада СССР весці вайну ў тыле немцаў, надаўшы ёй татальны характар. Таму на пачатку ў Беларусі існавала бескантрольная, блізкая да бандытызму партызаншчына. Але неўзабаве яна была ўзятая пад кантроль падпольным партыйным і савецкім органамі, якія мелі адведзеныя паўнамоцтвы з Масквы і дапамогу з-за лініі фронту.

Увогуле, партызанскі рух не быў аднародным. Яго складалі савецкія партызаны, польскія, якія прадстаўлялі як даваенны польскі ўрад (Армія Краёва), так і новы прасавецкі (Армія Людова), украінскія партызаны з АУН-УПА ды летувіскія атрады. Аб чым гэта сведчыць? Аб падтрымцы ўсіх гэтых збройных фармаванняў насельніцтвам, без якой партызанскі рух не мог існаваць наогул.

Цікава прасачыць стасункі паміж гэтымі атрадамі. У верасні 1939 года польскі ўрад абвясціў вайну і СССР, і Германіі. Кантраляваныя ім падпольныя групы стварылі АК, якая пасля перамогі антыгітлераўскай кааліцыі мела намер узняць паўстанне і вызваліць Польшчу ўласнымі сіламі, без удзелу Чырвонай Арміі. У 1943 годзе групы АК у Заходняй Беларусі, якія складаліся з мясцовых жыхароў — колішніх польскіх вайскоўцаў і дагэтуль дзейнічалі пасіўна, актывізаваліся, зрабіўшы гэта не на загад з Лондана, а самастойна, жадаючы даць адпор немцам, бо гэта ўжо даўно рабілі савецкія партызаны. Але тады ж, на пачатку 1943 г., рэзка пагоршыліся стасункі польскага эміграцкага ўрада з Масквой. І савецкія партызаны ў Беларусі па загад з Крамля пачалі раззбройваць і перацягваць на свой бок аддзелы АК, якія налічвалі 10—20 тысяч байцоў. Але ж і тыя, і другія атрады складаліся з мясцовых жыхароў — пераважна беларусаў, якіх у фарміраваннях АК была пераважная большасць.

**— Вайна паставіла перад намі балючую праблему людзей, якія супрацоўнічалі з немцамі. У савецкі час усіх іх называлі здраднікамі...**

— Супрацоўніцтва з акупацыйнымі ўладамі — непазбежная частка падзеяў кожнай вайны. Што ўжо казаць пра Беларусь, дзе ў першай палове стагоддзя ўлады мяняліся адна за адной — царская, нямецкая, савецкая, польская, нямецкая і зноў савецкая? Таму праца на іх найчасцей была падмацаваная не ідэалогіяй, а жаданнем выжыць.

Трэба разумець: адзін таталітарны рэжым на Беларусі тады змяніўся іншым. І калі ў большасці захопленых краін немцы захавалі ранейшая адміністрацыю і паліцыю, дык у СССР гэтага проста не магло быць. З гэтага і вынікала масавая патрэба ў кадрах акупацыйнай адміністрацыі ніжэйшага звяна.

На пасады ў органы мясцовага кіравання людзі траплялі рознымі шляхамі — добраахвотна, прымусова, у выніку выбару мясцовых жыхароў. Былі вёскі, у якіх пасаду старасты займалі па чарзе...

**— Пасля вайны людзі, якія працавалі на немцаў, савецкай уладай найчасцей трактаваліся як здраднікі. У поўнай ступені гэта датычыла тых, хто насіў зброю. Але ці на самай справе ўсе яны былі ворагамі?**

— На гэтае пытанне нельга адказаць адназначна ўжо таму, што не ўсе пайшлі на службу да немцаў з уласнае волі. Сярод паліцыянтаў былі розныя людзі. Да таго ж першым часам мясцовыя паліцэйскія пастарункі займаліся не барацьбой з партызанамі ці карнымі акцыямі, а расследаваннем звычайных крымінальных справаў, бо злачынцаў тады хапала. Дакументы таго часу сведчаць: правы мясцовых паліцыянтаў былі абмежаванымі — яны займаліся выключна справамі мясцовага насельніцтва, ахоўваю парадку. Нават супраць партызан яны маглі дзейнічаць, толькі папярэдзіўшы нямецкі жандарскі пост і дзеючы адпаведна інструкцыям адтуль.

**— Апошнім часам гучаць выказванні аб тым, што вайна ў Беларусі мела характар грамадзянскай...**

— Нешта падобнае пачалося пасля 1943 года, калі пасля пералому ў вайне немцы, змяніўшы тактыку, пачалі шукаць саюзнікаў. У выніку абставіны склаліся так, што грамадства аказалася штучна падзеленым на тых, хто быў з акупантамі і супраць іх. І гэтае супрацьстаянне пачало набываць характар грамадзянскай вайны. Удзень забівалі людзей з сем'яў партызан, а ўначы тых, хто працаваў на немцаў. Згодна з дадзенымі Беларускага штаба партызанскага руху, партызаны забілі больш за 50 000 паліцыянтаў. Каля 19 000 калабарантаў перайшлі на бок партызан і паўтары тысячы іх загінулі ў баях з акупантамі. Гэта была трагедыя народа, якую савецкая прапаганда пазней хавала за мітам пра агульнанародную барацьбу супраць захопнікаў. У сапраўднасці ж у лютым 1943 года колькасць партызан складала 50 000, калабарантаў — больш за 100 000 асобаў. У час вайны ў Любані было 5 немцаў і 45 паліцыянтаў. Затое пазней забітых беларускімі партызанамі беларускіх калабарантаў савецкія гісторыкі называлі немцамі...

Трагедыя беларусаў была і ў тым, што акупанты разглядалі іх менавіта як насельніцтва акупаванай тэрыторыі. Калі б БЦР была створаная ў 1941 годзе, калі б гэткую магчымасць атрымалі і летувісы, украінцы ды іншыя, дык гісторыя магла б пайсці іншым шляхам. Але выбару не было: альбо «план «Ост», альбо «за Родину, за Сталина». Наш народ мусіў згінуць альбо перамагчы.

**— Гэта азначала паразу звязаных з немцамі нацыянальных дзеячаў?**

— Немцы не збіраліся даваць беларусам нічога з таго, на што тыя спадзяваліся. І ў вачах народа многія беларускія лідэры аказаліся згоднікамі і ворагамі. Беларуская цэнтральная Рада была створаная тады, калі вынік вайны быў ужо вызначаны.

Але калі б БЦР стварылі раней, на пачатку вайны, калі б немцам была патрэбна беларуская дзяржаўнасць, дык Астроўскі штогод праводзіў бы набор у БКА і не немцы, а беларусы гінулі б у поўнамаштабнай грамадзянскай вайне. А потым БКА атрымала б кавалак фронту і была б знішчаная Чырвонай Арміяй альбо саюзнікамі. І лёс нашага народа пасля вяртання сталінскай улады быў бы тым больш вартым жалю...

**— Прыведзеныя Вамі факты сведчаць аб тым, што апошняя кропка ў гісторыі Беларусі часу Другой сусветнай вайны яшчэ не пастаўлена...**

— Думаю, што нашыя даследнікі павінны стварыць менавіта гісторыю беларускага народа ў Другой сусветнай вайне. Але гэта справа нават не заўтрашняга дня.

**Распытаў У.ПАНАДА.**

*Падрабязнасці*

# Чый шчыт і чый меч?

У руках барадатага мужыка — меч і шчыт — гэтая постаць стала эмблемай. Не, не нашчадкаў «жалезнага Фелікса», а міжнароднага фестывалю, месцам правядзення якога сёлета стаў Менск. Дзякуючы намаганням друку і тэлевізіі беларусы, жадаючы таго ці не, ведалі ўсё пра кожны крок і кожнае слова яго арганізатараў, спонсараў і ўдзельнікаў ды пра тое, што думаюць пра фестываль першыя асобы краіны.

Але сёння, калі «Залаты віцязь-96» ужо стаў набыткам гісторыі, час асэнсаваць яго ідэі і ідэалогію, канцэпцыю і прызначэнне. Таму напачатку згадаем, з чаго ўсё пачалося.

Упершыню фестываль адбыўся ў 1992 годзе ў Маскве з дабраславення Патрыярха Маскоўскага і ўсяе Русі. Выглядаў першы фестываль, мякка кажучы, сціпла: на конкурсны прагляд было прадстаўлена 30 фільмаў з краін былога СССР ды яго колішніх сатэлітаў — Балгарыі, Польшчы, Сербіі, Славакіі. Тры галоўныя прызы — залатога, срэбранага ды бронзавага «Віцязяў» — атрымалі фільмы, знятыя ў Расіі, ці то з прычыны адсутнасці талентаў у іншых краінах, ці то ў выніку жадання непапулярных за межамі адной шостай свету расійскіх кінематаграфістаў самасцвярдзіцца хаця б гэткім чынам.

Другі «Залаты віцязь» прайшоў у адным з буйнейшых гарадоў Серб᾿ — Новым Садзе і стаў не столькі падзеяй жыцця кіно, колькі спробаю Расіі вывесці Сербію — краінуагрэсара ў югаслаўскай вайне — са стану міжнароднай ізаляцыі. Апраўданнем маральнай падтрымкі Сербіі і абмежаванага кола ўдзельнікаў — толькі пяці — стала новая канцэпцыя «Залатога віцязя», якая адлюстравалася ў яго назве. З таго часу ён стаў кінафестывалем «славянскіх і праваслаўных народаў», зачыніўшы дзверы перад славянамі Босніі ды Харватыі, а таксама ўсімі іншымі «не тымі» народамі і верамі.

Трэці, 1994 года «Залаты віцязь», як і папярэдні, адбыўся ў горадзе, жыхары каторага з верай, надзеяй і любоўю глядзелі ў бок Масквы. Фестываль прытуліў Цірасполь — сталіца створанай прарасійскімі сепаратыстамі Прыднястроўскай малдаўскай рэспублікі.

Чацвёрты «Залаты віцязь» вярнуўся на радзіму — у Маскву. Але пра Беларусь на ім не забыліся: на конкурсе відэафільмаў нашу краіну прадстаўляў фільм Ю.Азаронка «Ненависть». «Анализируя политическую ситуацию в Белоруссии 1995 года, автор пытается разобраться, кто сеет зерна ненависти в обществе, кто пытается поссорить русский и белорусский народы, кому хочется, чтобы наша страна запылала в огне гражданской войны. Автор рассказывает о националистических партиях БНФ (Белорусский народный фронт) и «Правый реванш», пытается проследить их исторические корни, найти покровителей, понять, куда они хотят вести белорусский народ», — такі выгляд мела анатацыя на фільм у фестывальным каталогу.

Сёлета новай «гарачай кропкай» на абшарах былога СССР стала сталіца Беларусі, жыхары якой так і не маглі зразумець, дзе яны жывуць: яшчэ ў Беларусі ці ўжо ў Расіі? І правядзенне ў Менску «Залатога віцязя» стала, пэўна, своеасаблівай падказкай няўцямным. Вось цытаты з фестывальных прамоваў:

«Народ Беларуси всегда был восприимчив к высоким идеям братства, взаимопомощи, сотрудничества. Свое желание к единству с братской Россией Беларусь убедительно подтвердила на Всенародном референдуме в мае 1995 года. С тех пор в интернациональном отношении наши страны достигли многого...

Обращаясь сегодня к вам, участникам и гостям 5 международного кинофестиваля Славянских и Православных народов, ко всем тем, кто смотрит и слушает нас, я хотел бы, чтобы мы, славяне, всеми силами, в том числе и посредством кинематографа, поддержали и укрепили устремления наших народов к единению» (Прэзідэнт А.Лукашэнка.)

«Проведение в столице Беларуси Международного фестиваля славянских и православных народов является не просто знаменательным событием культурной жизни республики. Нынешний смотр кинематографических достижений становится очередным и весьма значительным шагом на пути сближения братских — в самом высоком значении этого слова! — народов» (мітрапаліт Менскі і Слуцкі Філарэт, патрыяршы Экзарх усея Беларусі).

Кінацэнтр «Русский фильм» (Масква) стаў у чарговы раз галоўным арганізатарам фестывалю. Сярод іншых арганізатараў аказаліся: Расійскі камітэт кінематаграфіі, Расійскі земскі рух, Маскоўскі патрыярхат, Фонд адзінства праваслаўных народаў (Расія), часопіс «Россия молодая», Міжнародны фонд падтрымкі праваслаўнай культуры імя св.Аляксандра Неўскага (Расія), Сусветны Рускі Сабор (Расія).

Праўда, як паведаміў старшыня Саюза кінематаграфістаў Беларусі Ю.Цвяткоў, «Золотой витязь» рождался при огромной моральной и творческой поддержке белорусских кинематографистов» — В.Турава, У.Гасцюхіна ды іншых. Прычыну гэтай падтрымкі назваў сам Віктар Тураў: «Считаю, что международный фестиваль «Золотой витязь» очень нужен. Мы лишены кино для нас и про нас».

Шукаючы ў праграме фестывалю «кіно пра нас», аўтар гэтай публікацыі выпісаў з конкурснай праграмы фестывалю ўсе фільмы, у якіх згадваюцца назвы краін ці народаў, атрымаўшы наступны спіс: «Чужая Америка», «Я — русский солдат», «Приморье — форпост России», «Непокорённая Россия», «Море и Украина», «Россия: опыт молчания», «За Русь святую», «Русская тайна», «Достоевский и Беларусь», «Сербы — хорошие люди», «Русский дом», «Русский миръ», «Русская Австралия», «Та небесная Россия».

Нягледзячы на вонкава малую цікаўнасць айчынных і замежных кінематаграфістаў да Беларусі, пра яе такі не забыліся. Адзначыўся, атрымаўшы «Залатога віцязя» ў раздзеле студэнцкіх і дэбютных фільмаў, беларус Р.Зголіч з фільмам «Истоки». Гледачам гэтага твору кінамастацтва на экране дэманструецца скарбонка чарназёму ў суправаджэнні словаў аб любові да маці-Расіі і яе зямелькі. Адразу ўспамінаюцца словы настаўніка аўтара фільма — В.Турава: «Когда я учился у Довженко, в нашей мастерской было 28 человек девятнадцати национальностей. Не возникало никаких конфликтов, потому что Довженко... был гражданином СССР. Он умел незаметно, просто, выражая свою любовь к своей земле, передать нам всем любовь к той земле, откуда мы родом». Да СССР?

Дык чым жа з'яўляецца «Залаты віцязь» — аглядам твораў мастацтва кіно ці інструментам накідвання іншым народам расійскай свядомасці, прапаганды расійскай культуры і палітыкі? Якія асацыяцыі выклікае постаць прысутнага ва ўсіх «гарачых кропках» ваяра ў суправаджэнні разважанняў аб крызісе духоўнасці ўсіх народаў свету, акрамя праваслаўных славян?

«Сярод катастрафічнага краху душа нардычнай расы абуджаецца да новай, больш высокай свядомасці. Гэтая расавая свядомасць дазваляе чалавеку зразумець, што ўтвараюцца новыя галоўныя каштоўнасці, якія не могуць існаваць на роўных правах, што яны ўзаемна выключаюць старыя. Новая свядомасць пераконвае, што менавіта духоўныя каштоўнасці расы пануюць над усімі іншымі. Усё чужое павінна быць бязлітасна адкінута не таму, што яно добрае ці благое, а таму, што яно чужое ўнутранай структуры нашае душы», — напісаў гітлераўскі ідэолаг Альфрэд Розенберг у сваёй кнізе «Міт XX стагоддзя», выдадзенай у 1944 годзе.

Ці не стала асноўнай ідэяй фестывалю менавіта ідэалогія германскіх нацыстаў, у якой арыйскі расізм заменены славянскім? Чый шчыт і чый меч прапануе беларусам «Залаты віцязь»?

**У.ПАНАДА.**

*Згадкі* *Згадкі*

# Беларуская эміграцыя ў міжваенны час

**Польшча.** Як вядома, беларусаў у Польшчы жыло вельмі многа з даўняга часу. Працавалі яны на фабрыках і заводах, у гандлёвых прадпрыемствах, на будоўлі дарог і на розных гарадскіх работах. Матэрыяльна жылі не надта забяспечана, а дзяцей адбірала ў іх польская школа. Найбольш беларусаў жыло ў Варшаве: па некаторых звестках некалькі тысяч чалавек. На яе вуліцах у той час чуваць была і беларуская мова.

Пачатак арганізаванаму руху беларусаў у Польшчы паклалі ў 1915 г. студэнцкія гурткі аднойленага Варшаўскага універсітэта. У 1919 г. свядомыя беларусы аб'ядноўваюцца ў Варшаве ў так званы Беларускі камітэт, які на працягу некалькіх гадоў вёў культурна-асветніцкую працу. Прыкладам, намаганнямі камітэта была створана бібліятэка, у якую паступала ўся беларускамоўная прэса (газеты і кнігі). Актыўным сябрам арганізацыі быў нашаніўскі паэт Гальяш Леўчык. У 1922 г. польскія ўлады ліквідавалі Беларускі камітэт. Урэшце, у 1930 г. у Варшаве ўтвараецца Саюз беларускіх студэнтаў, які, на жаль, значнай падтрымкай у гарадскіх суродзічаў не карыстаўся і працаваў галоўным чынам у сялянскім асяроддзі Заходняй Беларусі. Саюз меў цесную лучнасць з Беластоцкай арганізацыяй «Сяўба», Віленскім саюзам беларускіх студэнтаў і з Таварыствам беларускай школы: сумесна ладзіліся лекцыі, пасяджэнні, спектаклі і канцэрты на Наваградчыне, асабліва ў гмінах Нягневіцкай, Карэліцкай, Шчорсаўскай і Любчанскай. Як сведчыць студэнт М.Орса, найбольш працы і энергіі ўлажыў у беларускія культурныя акцыі Пятро Першукевіч — сябра Беларускага студэнцкага саюза ў Вільні і супрацоўнік Саюза беларускіх студэнтаў у Варшаве. У 1933 г. варшаўскія студэнты пачалі выдаваць газету «Першы крок», якая, як і трэба было чакаць, у хуткім часе была сканфіскавана ўладамі. Шырокая адраджэнская дзейнасць, якую праводзілі варшаўскія студэнты-беларусы ў Заходняй Беларусі, прывяла ў 1934 г. да ліквідацыі іх арганізацыі.

На нейкі час беларусы ў Варшаве засталіся без сваёй суполкі. У 1936 г. высілкамі прафесара Казуры, адваката Бычкоўскага, Гапановіча і Ластаўкі было створана Беларускае культурнае таварыства, якое на гэты раз абапіралася на варшаўскіх беларусаў. Планавалася адкрыць філіялы і аддзелы на беларускіх землях з цэнтрам у Варшаве. Аднак камісар урада Варшавы, а затым і Міністэрства ўнутраных спраў забаранілі такога роду дзейнасць, адзначыўшы, што «такую арганізацыю магчыма залажыць толькі на тэрыторыі, этнаграфічна заселенай беларусамі». Давялося варшаўскім беларусам у канцы 1937 г. пагадзіцца на так званае Асветнае таварыства беларусаў, дзейнасць якога абмяжоўвалася тэрыторыяй Варшавы.

**Летува.** Як і ў Латвіі, тут працавалі беларускія школы і гімназіі — прыватныя і дзяржаўныя, 2 народныя універсітэты, Беларускі народны тэатр, Беларускае культурна-асветніцкае таварыства. Як паведамлялася ў Летапісе Таварыства беларускае школы (г. Вільня), беларускія спектаклі і канцэрты ладзіліся ў Коўне, Вількаміры, Янаве, іншых гарадах і мястэчках. У канцэртах прымалі ўдзел беларускія мясцовыя хоры і струнныя аркестры. Ставіліся спектаклі па п'есах Я.Купалы, У.Галубка, Ф.Аляхновіча, М.Чарота, В.Сахаравай і іншых. З дэкламацыямі уласных твораў выступала паэтэса студэнтка Л.Раманейка. У друку паведамлялася, што летувіскія беларусы паспяхова працуюць у галіне сваёй нацыянальнай культуры і з захапленнем успрымаюць са сцэны сваё роднае слова. У прэсе «праскочыла» і такое паведамленне: «У 1933 г. летувіскі ўрад, выдаючы дапамогі культурна-асветным арганізацыям нацыянальных меншасцяў, зусім памінуў усе такія арганізацыі беларускія».

У сталічным Коўне з 1920 г. працавалі Рада і ўрад Беларускай народнай рэспублікі на чале з Пятром Крэчэўскім і Вацлавам Ластоўскім. Апошні займаўся не толькі палітычнай дзейнасцю, але і грамадскай, выдавецкай і навуковай працай. Ён узначаліў культурна-асветніцкі рух беларусаў Летувы, рэдагаваў часопіс «Крывіч» і «Падручны расійска-крыўскі слоўнік», працаваў над «Гісторыяй беларускай (крыўскай) кнігі».

**Латвія.** Паўліна Мядзёлка ў сваёй кнізе «Сцежкамі жыцця» прыгадвае пра пачатак будаўніцтва «беларускага дома» ў гэтай краіне: «У 1921 г. у Латвіі было заснавана Беларускае культурна-асветнае таварыства «Бацькаўшчына», якое ставіла сваёй мэтай інфармаваць латвійскае грамадства і ўрад аб становішчы беларускай меншасці і яе культурна-асветных патрэбах і арганізацыю беларускіх школ у вёсках з беларускім насельніцтвам. Стараннем «Бацькаўшчыны» з дазволу Міністэрства асветы ў ліпені 1921 г. былі адкрыты ў Дзвінску першыя летнія шасцітыднёвыя курсы беларусазнаўства для падрыхтоўкі настаўнікаў школ, а з восені ў Пустынскай і Прыдруйскай валасцях адкрыліся першыя 16 беларускіх асноўных (пачатковых) школ. Рыхтаваліся адкрыць такія школы і ў іншых валасцях, заселеных беларусамі. Паўстала пытанне аб арганізацыі пры Міністэрстве асветы Беларускага аддзела для кіраўніцтва беларускімі школамі. Члены таварыства «Бацькаўшчына» звярнуліся за дапамогаю да выдатнага латышскага паэта і грамадскага дзеяча Яна Райніса... Яго стараннем Рада Міністраў у сваёй пастанове ад 13 верасня 1921 г. вырашыла ўтварыць пры Міністэрстве асветы Беларускі аддзел, кіраўніком якога быў зацверджаны Сяргей Сахараў».

У трыццатыя гады ў Латвіі працавалі беларускія школы і гімназіі, для якіх Міністэрства асветы друкавала падручнікі і дапаможнікі, а таксама розныя грамадскія арганізацыі (Таварыства беларускага тэатра, Таварыства беларускіх вучыцялёў, Таварыства беларускай моладзі і інш.). Адной з такіх устаноў была прыватная гімназія ў Рызе пад эгідай Таварыства беларускіх вучыцялёў. У ёй выкладаліся нямецкая і англійская мовы, а ўтрымлівалася яна коштам Вучыцельскага саюза і Рыжскага гарадскога самаўрада. Заняткі адбываліся вечарам, бо наведвалі яе работнікі фабрык і розных кантор. У Рызе працавалі таксама тры агульнаадукацыйныя школы, з якіх дзве былі на ўтрыманні горада. Пры вячэрняй школе, якую ўзначальваў былы дзеяч БНР, кіраўнік беларускага зямляцтва ў Латвіі Канстанцін Езавітаў, працавалі спецыяльныя класы для падрыхтоўкі кваліфікаваных рабочых. Працавалі ў сталіцы і Дзяржаўныя беларускія настаўніцкія курсы, якія рыхтавалі выкладчыкаў для пачатковых беларускамоўных школ. З культурных таварыстваў варта адзначыць Таварыства беларускай моладзі ў Латвіі. Заснаванае ў 1928 г., яно мела 14 аддзелаў пры 760 сябрах у Дзвінскім, Люцынскім і Рэчыцкім паветах. 15-ы аддзел працаваў у Рызе. На 1933 г. сябры Таварыства мелі свае бібліятэкі, чытальні, зладзілі каля тысячы беларускіх тэатральных пастановак, канцэртаў і вечарынак, прачыталі шмат лекцый і рэфератаў на навукова-грамадскія тэмы. Аддзелы атрымалі ад управы інструменты для некалькіх струнных аркестраў і радыёапараты.

Доўгі час у Латвіі працавала Таварыства беларускіх вучыцялёў, якое ў 1939 г. зладзіла сваю апошнюю вечарыну, паколькі падпала пад ліквідацыю. На вечарыне быў заслуханы на латышскай мове рэферат на тэму латышска-беларускіх адносін і паказаны спектакль «Паўлінка». Вядома, што ў апошні даваенны год кіраўніцтва Таварыства хадайнічала перад Міністэрствам грамадскіх спраў дазволіць яму рэарганізавацца ў Таварыства беларусаў Латвіі. Гэты план перакрэсліла далучэнне Латвіі да СССР. Да сказанага дадам, што першая вялікая вечарына ў Латвіі адбылася 17 снежня 1919 г. і была яна зладжана Беларускай калоніяй.

*(Заканчэнне будзе.)*

**Ірына КРЭНЬ.**

# ВЕРУЕМ

## «Адчуў, што некаму патрэбны»

*Павел Кавалёў, адзін з першых клерыкаў Беларускай Грэка-Каталіцкай Царквы, які пяць гадоў таму ўступіў у закон манахаў-студытаў, 23 траўня быў пасвечаны на святара пад імем ераманаха Пахома ў Святаўспенскай уніяскай лаўры на Украіне біскупам Васілём Мэдвідам.*

*Айцец Пахом згадзіўся адказаць на пытанні нашага карэспандэнта.*

**— Айцец Пахом, скажыце, калі ласка, як Вы прыйшлі да святарства, калі адчулі ў сабе гэтае пакліканне?**

— Усё пачалося з нацыянальнага ўсведамлення сябе як беларуса, як таго, хто жадае адраджэння нашай дзяржавы, нацыянальных каштоўнасцяў. Робячы даследаванні, на чым жа грунтуецца нацыянальная свядомасць беларуса, я не абмінуў і духоўны бок гэтай з'явы. Бо ў XVI—XVII стагоддзях наш народ меў веру, якая звалася уніяцкай, ці грэка-каталіцкай. Гэтая Царква аднавіла еднасць са Святым Пасадам, выконваючы Запавет Хрыста «Каб былі ўсе адно». Я сядзеў у бібліятэках, чытаў матэрыялы па гісторыі Уніі, а пасля мяне пазнаёмілі са святаром айцом Янам Матусевічам, які ў той час паўпадпольна служыў літургію на прыватнай кватэры. Пасля размоў з ім у 1989 годзе я вырашыў прыняць Хрэст з большага дзеля таго, каб у паўнаце адчуваць сябе беларусам, рэлігійная свядомасць у мяне яшчэ была вельмі малая. Пасля гэтага мяне досыць хутка забралі ў войска. Як вядома, наша войска — гэта школа выжывання, дзе чалавек ставіцца ў экстрэмальныя ўмовы. І ў гэтых умовах я адчуў, што Нехта мяне апякуе, некаму я патрэбны. Я пачаў маліцца і ў некалькіх выпадках адчуў, што з'яўляюся для Яго каштоўнасцю. Мяне камісавалі з войска па хваробе, і гэта таксама лічу Божым знакам, бо я служыў якраз у тых войсках, якія бралі ўдзел ва ўзброеных канфліктах у Закаўказзі, і ў 1991 годзе мы павінны былі ехаць у Абхазію. З-за хваробы я не трапіў у тую групу, і такім чынам Бог мяне выратаваў. У той час вера ў Бога была ў мяне яшчэ на падсвядомым узроўні. Прыйшоўшы з войска, я зацікавіўся рухам Рэрыхаў. Я быў у стане духоўнага пошуку і тут сустрэў свайго даўняга сябра Андрэя Абламейку, які ў той час стаў дыяканам Грэка-Каталіцкай Царквы, што для мяне было вельмі нечаканым. І, сустракаючыся з ім, я зразумеў, што маё месца ў гэтай Царкве, якая на той час выйшла з падполля. Набажэнствы ў царкве адбываліся толькі па нядзелях. Я штодня стаў хадзіць у касцёл святога Роха на Залатой Горцы і дзякуючы ксяндзу Міхалу Сапелю прыступіў там да першай споведзі і камуніі. Некаторы час працаваў у Музеі народнай архітэктуры і побыту.

Пераломным жа момантам у маім жыцці сталі рэкалекцыі, духоўныя практыкаванні, якія былі наладжаны ў Польшчы ў мястэчку Кастамлоты, дзе знаходзіцца уніяцкая парафія. Пробашч, кс. Раман Пёнтка, прыняў нас на цэлы тыдзень. Тая атмасфера літургічнай малітвы, разважання пра Святое Пісьмо зрабіла сваю справу. Я адчуў жаданне быць бліжэй да Бога. Так нарадзілася маё святарскае пакліканне. Больш у свеце я знаходзіцца не мог і вырашыў пайсці ў кляштар. Я паехаў на Украіну і ўступіў там у закон манахаў-студытаў. Праз паўтара месяца распачаў навуку ў духоўнай семінарыі. Там я адвучыўся чатыры гады і прыехаў на Беларусь.

**— А як паставіліся да гэтага выбару вашыя бацькі і знаёмыя?**

— Мая сям'я была вельмі далёкай ад Бога, ад Царквы. Дзякуючы Божай ласцы, калі я ўжо знаходзіўся ў кляштары, прыняла Хрост мая маці. Цяпер яна рэгулярна наведвае набажэнствы. Бацька і брат яшчэ не ахрышчаныя. Таму маім родзічам спачатку было вельмі цяжка зразумець мой выбар: як гэта я выракаюся сямейнага жыцця і добраахвотна іду ў кляштар?

**— І ў гэтай манашай супольнасці вы былі адным беларусам?**

— Напачатку так. Пазней прыходзілі яшчэ беларусы, але, пажыўшы нейкі час, адыходзілі па розных прычынах. Зараз у нашым законе знаходзіцца яшчэ адзін хлопец з Полацка.

**— Напэўна, вам было цяжка аднаму. А якімі былі адносіны да вас украінцаў?**

— Калі я ехаў у Львоў, якраз у газетах пачалі палохаць народ украінскімі нацыяналістамі. Мне казалі знаёмыя: глядзі, каб не вымавіў там ніводнага расійскага слова. Я прыехаў і не сустрэў нічога падобнага і блізка. Айцец ігумен сказаў, што я магу гаварыць па-беларуску ў кляштары. Потым я вывучыў і ўкраінскую мову, але не забыў і сваёй. Яны вельмі добра адносіліся да мяне, вельмі перажывалі за нашу краіну, бо ў нас няма такой моцнай Царквы, як у іх. Ігумен заўсёды мне дапамагаў, дапамагалі браты. Вера заўсёды яднае людзей, не зважаючы на нацыянальнасць.

**— Якія вашыя далейшыя планы, дзе збіраецеся працаваць?**

— З 1994 года манахі-студыты працуюць у Полацку. Там арганізаваны наш кляштар, па дабраслаўленню ігумена. Мы абслугоўваем там мясцовую парафію, а таксама парафіі ў Віцебску і Гомелі. Вось там разам з айцом Бенэдыктам і буду працаваць, рэалізоўваючы сваё пакліканне.

**— Вас з самага пачатку рыхтавалі для работы на Беларусі?**

— Так. Мне ігумен сказаў яшчэ пры паступленні, што я мушу вярнуцца пасля вучобы на Беларусь.

**— І, айцец Пахом, апошняе пытанне. Скажыце, якое стаўленне вашай Царквы да беларускай мовы ў набажэнствах, да нацыянальных традыцый беларусаў?**

— Нашая Царква выйшла з беларускага нацыянальнага руху, большасць парафіяў паўстала на базе суполак Народнага Фронту і шмат яго актывістаў сталі вернікамі. Богаслужбовай мовай у нас заўсёды была беларуская. Мы імкнёмся захаваць і нацыянальную мову, і традыцыі ў набажэнствах, але галоўная мэта Царквы — несці Божае Дабравешчанне людзям. І калі да нас прыходзяць расійскамоўныя людзі, як гэта адбылося ў Полацку, дзе перайшла з пратэстанцтва цэлая грамада, мы вельмі далікатна ставімся да моўнага пытання. У нашай парафіі ёсць і ўкраінцы. Літургія адпраўляецца па-беларуску, а спевы бываюць і па-беларуску, і па-расійску, і па-ўкраінску. Хрыстос усіх яднае. Адносіны нашай Царквы да ўсяго нацыянальнага, безумоўна, пазітыўныя, бо і Хрыстос, прыйшоўшы да габрэйскага народа, сам быў добрым габрэем. Ён сказаў, што прыйшоў не скасаваць традыцыі, а ўдасканаліць іх. І мы павінны захоўваць традыцыі, але несці і нешта вышэйшае — усеагульную любоў, каб наша нацыянальнасць не стала для нас той перашкодай, якой яна стала для габрэяў, якія лічылі, што месія можа прынесці вызваленне толькі ім. Хрыстос прынёс любоў да ўсіх людзей і хоча, каб усе людзі збавіліся. Як кажа апостал Павел, «няма ўжо ні юдэя, ні грэка, усе ў Хрысце Езусе».

Альгерд НЕВЯРОЎСКІ.



**На здымку:** Пабудова грэка-каталіцкай царквы.

**Фота Ю.НОВІКАВА.**

## ...Прайшлі вуліцамі, дзе лілася кроў

У нядзелю, 9 чэрвеня, у пяты раз вуліцамі Менска прайшла працэсія вернікаў-каталікоў з нагоды свята Божага Цела. Гэтая прыгожая традыцыя вядомая ў Беларусі ўжо некалькі стагоддзяў — шматтысячныя працэсіі ішлі за святаром, які нёс у манстранцыі (даразахавальніцы) Найсвяцейшы Сакрамант, спыняючыся каля кожнага з чатырох алтароў, пастаўленых на шляху ўрачыстай працэсіі для малітвы і дабраславенства людзей. У такіх працэсіях удзельнічалі ўсе саслоўі Вялікага Княства Літоўскага: мітрапаліты, біскупы ды іншае духавенства, вялікія князі, канцлеры, ваяводы, шляхта, войска, рамеснікі. Прычым кожная сацыяльная група выступала пад сваімі харугвамі. Пасля падзелаў Рэчы Паспалітай, асабліва пасля Вызвольнага паўстання 1863 г., расійскія ўлады забаранілі каталікам праводзіць публічныя набажэнствы. Гэтае абмежаванне дзейнічала да 1906 года. Пасля некалькіх гадоў вольнасці камуністычны рэжым больш 70-ці гадоў зноў забараняў людзям адкрыта дэманстраваць свае рэлігійныя пераканнні. І толькі ў 1992 годзе, ужо ў незалежнай Беларусі, вернікі змаглі адкрыта выйсці на вуліцы нашых гарадоў і мястэчак.

Сёлетняе свята пачалося а восьмай гадзіне раніцы ўрачыстай імшой на прыступках касцёла Найсвяцейшай Тройцы св. Роха на Залатой Горцы. На пляцы каля касцёла сабралася 3,5—4 тысячы чалавек. Алтар быў аздоблены кветкамі і тканінамі бел-чырвонабелага колеру. Імшу адпраўляў Апостальскі нунцый арцыбіскуп Дамінік Грушоўскі ў саслужэнні дзесяці рыма- і грэка-каталіцкіх святароў. Прыемна было пачуць ад арцыбіскупа некалькі фраз на беларускай мове, і гэта пры тым, што нунцый знаходзіцца ў Беларусі ўсяго месяц.

Пасля службы людзі выйшлі на праспект Скарыны і рушылі ў накірунку плошчы Незалежнасці. Гарадскія ўлады дазволілі ісці толькі па ходніках у адрозненне ад папярэдніх гадоў. Напэўна, яны так напалоханыя рознымі шэсцямі і дэманстрацыямі, якія ў апошні час адбыліся ў Менску, што нават на рэлігійнае свята сцягнулі да плошчы Перамогі ўзмоцненыя аддзелы міліцыі. Але ўрачыстасць прайшла вельмі арганізавана, людзі былі ўзрушаныя, радаваліся.

Ксёндз дэкан Ян Шуткевіч пасля працэсіі ў катэдры сказаў: «Сёння вуліцамі нашай сталіцы, якія бачылі ў апошні час шмат людской нянавісці і злосці, збіцця людзей, прайшоў Езус, які нясе мір і супакой. Давайце ж, браты і сёстры, шчыра маліцца, каб уся нянавісць чалавека да чалавека канчаткова знікла з беларускай зямлі».

Таксама са словамі падзякі звярнуўся да вернікаў і святароў айцец протапрэсбітэр Ян Матусевіч, які падзякаваў усім прысутным ад імя Беларускай Грэка-Каталіцкай Царквы за магчымасць удзелу ў свяце грэка-каталіцкіх вернікаў і за братэрскі прыём, як і належыць братам і сёстрам у Хрысце.

Фэст скончыўся папскім дабраславенствам прысутных, якое ўдзяліў арцыбіскуп Грушоўскі.

## Сабор у Гародні

На пачатку чэрвеня адбыўся Сабор Беларускай Грэка-Каталіцкай Царквы. У горад па-над Нёманам з'ехаліся святары з усёй Беларусі, а таксама вернікі, пераважна старшыні парафіяльных камітэтаў і актывісты з Менска, Гародні, Берасця, Ліды, Полацка, Віцебска, Магілёва ды іншых гарадоў. Месцам правядзення Сабору стала парафіяльная капліца ў гарадзенскім раёне Дзевятоўка, якую зычліва аддалі ў часовае карыстанне грэка-каталікам айцы-рэдэмптарысты.

На Саборы выступалі візітар Кангрэгацыі Усходніх Цэркваў айцец Сяргей Гаек, айцец-дэкан Ян Матусевіч, а.Казімір Ляховіч ды іншыя святары, вернікі. Разглядалася пытанне магчымасці аднаўлення Беларускага Экзархата Грэка-Каталіцкай Царквы. У 1942 годзе папа Пій XI прызначыў беларускім Экзархам айца Антонія Неманцэвіча, які хоць і не доўга, але плённа працаваў на беларускай рэлігійнай ніве. У 1943 годзе, на падставе даносу правакатараў, айцец Неманцэвіч быў расстраляны гестапа. Аднаўленне Экзархата цяпер вельмі неабходна ў сувязі з павялічэннем колькасці парафіяў па ўсёй краіне і з'яўленнем шматлікіх новых вернікаў.

Другім важным пытаннем, якое разгледзеў Сабор, была праблема ўнармавання царкоўнага календара і Пасхаліі. У розных краінах свету ўсходнія цэрквы карыстаюцца ці грыгарыянскім, ці юліянскім календаром у залежнасці ад тых традыцый, якія прыняты ў гэтых краінах. На Беларусі большасць парафій карыстаецца новым, грыгарыянскім календаром, але ў шэрагу парафій, у якіх ёсць вялікая колькасць вернікаў, перайшоўшых з праваслаўя, выкарыстоўваюць юліянскі каляндар. Пасля дыскусіі ўдзельнікі Сабору пагадзіліся, што гэтае пытанне патрабуе больш глыбокага аналізу і падрыхтоўкі.

Было вырашана пытанне па грэка-каталіцкім друкаваным органе — газеце «Царква». Абноўленую рэдакцыю газеты ўзначаліць ераманах полацкага кляштара святых Барыса і Глеба айцец Пахом (Павел Кавалёў).

Таксама зацверджаны план урачыстасцяў з нагоды 400-годдзя Берасцейскай Уніі. Так, у сярэдзіне жніўня святкаванні пройдуць у Магілёве, куды чакаецца прыезд прэфекта Кангрэгацыі Усходніх Цэркваў кардынала Акіле Сільвестрыні.

На заканчэнне Сабору была адслужана ўрачыстая літургія.

## Рэлігійная хроніка

Праваслаўны балтыйскі біскуп Панцеляймон выступіў з казаннем на каталіцкай велікоднай імшы ў Калінінградзе. Гэта першы выпадак удзелу праваслаўнага іерарха такога рангу ў каталіцкай імшы па ўсёй тэрыторыі былой Усходняй Прусіі. Каталіцкія святары таксама прынялі ўдзел у святкаванні праваслаўнага Вялікадня.

* * *

У Менску з 1 па 3 кастрычніка пройдзе «Экуменічная сустрэча» прадстаўнікоў праваслаўнай, каталіцкай і пратэстанцкай Цэркваў з краін былога Савецкага Саюза. Зараз створаны аргкамітэт па правядзенні гэтага мерапрыемства, які займаецца арганізацыйнымі пытаннямі. У яго ўвайшлі прадстаўнікі трох вышэйназваных канфесій.

Да Алімпійскіх гульняў 1996 г. у Атланце рыхтуюцца не толькі спартоўцы і заўзятары: створана спецыяльная каманда з 37 алімпійскіх капеланаў.

Яны прадстаўляюць шэсць сусветных рэлігій — хрысціянства, іслам, юдаізм, будызм, індуізм і бахаізм. У іхня задачы ўваходзіць маральная падтрымка спартоўцаў, асабліва тых, хто пацерпіць паразу ў ходзе спаборніцтваў ці будзе дыскваліфікаваны.

Пад пагрозай выдалення з тэрыторыі краіны знаходзяцца каталіцкія сёстры-законніцы, якія працуюць на Беларусі.

Старшыня Савета па справах рэлігій Анатоль Жыльскі заявіў, што ўсе законніцы, акрамя сясцёр закона Маці Тарэсы з Калькуты, будуць выдалены з Беларусі. Акрамя іх, усе іншыя манахіні займаюцца недазволенай рэлігійнай дзейнасцю. Дакладная колькасць сясцёр, якія знаходзяцца ў Беларусі, невядомая. Менска-магілёўскі мітрапаліт кардынал Казімір Свёнтак гаворыць, што іх каля 200, вялікую колькасць якіх складаюць грамадзянкі Польшчы, Летувы і Індыі.

Кардынал Свёнтак некалькі месяцаў вядзе перамовы з уладамі адносна статуса сясцёр. Трэцяга ліпеня мінулага года ўлады выдалі палажэнне, якое патрабуе абавязковага дазволу мясцовых уладаў на працу духоўных асоб, неграмадзянаў Беларусі.

Каталіцкі Касцёл і пратэстанцкія Цэрквы Чэхіі заклікалі супрацьдзейнічаць новаму крымінальнаму кодэксу, уведзенаму пад час парламенцкай выбарчай кампаніі, які практычна легалізуе аўтаназію (добраахвотнае забойства). Сакратар Канферэнцыі Чэшскіх Біскупаў кс. Міласлаў Фяла сказаў, што прымат Чэхіі кардынал Міласлаў Влк абмеркаваў гэтую праблему з прадстаўнікамі іншых канфесій і спадзяецца на іхнюю падтрымку пазіцыі Каталіцкага Касцёла. Біскуп Павел Сметана з Евангелісцкай Царквы Чэшскіх Братоў, кіраўнік Чэшскай Экуменічнай рады, заявіў, што ініцыятыва ўрада і лібералаў з кіруючай Градзянскай Дэмакратычнай Партыі «вельмі небяспечная». Разам з тым сацыялагічнае апытанне паказала, што большасць чэхаў падтрымлівае легалізацыю аўтаназіі, што паслужыла падставай для міністра юстыцыі прадставіць грамадскасці праект новага крымінальнага кодэкса.

У Эстоніі з'явілася новая палітычная партыя расійскай меншасці — Рускі Хрысціянскі Саюз. Адной з галоўных мэт партыі з'яўляецца дапамога Рускай Праваслаўнай Царкве ў Эстоніі. Старшыня РХС Барыс Пілар лічыць, што да восені, калі павінны адбыцца выбары ў мясцовыя органы ўлады, колькасць сяброў яго партыі дасягне тысячы чалавек, неабходных, паводле эстонскага заканадаўства, для рэгістрацыі.

*Паводле КАІ.*

Мітрапаліт менска-магілёўскі кардынал Казімір Свёнтак накіраваў ліст старшыні Федэрацыі прафсаюзаў Беларусі Уладзіміру Ганчарыку. Сутнасць яго ў наступным. У комплекс будынкаў архітэктурнага ансамбля Катэдральнага Сабора ў Менску ўваходзіць дом Біскупа (пл. Свабоды, 76). Да перадачы катэдры Касцёлу будынак выкарыстоўваўся ў якасці адміністрацыі спартклубу таварыства «Спартак». Пад час перадачы ўсёй маёмасці вернікам будынак застаўся на балансе Федэрацыі прафсаюзаў. Зараз будынак здадзены ў арэнду камерцыйным фірмам. Кардынал спадзяецца на добрую волю і разважлівасць кіраўніцтва Федэрацыі прафсаюзаў і спадзяецца, што гістарычная справядлівасць будзе адноўлена.

**Падрыхтаваў А.Н.**

